# ЗВЯЗДА



4 кастрычніка 1996 г. пятніца № 241 (23044)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### НОВЫЯ ПАМЕРЫ ДАПАМОГ НА ДЗЯЦЕЙ

**Як ужо паведамлялася ў сродках масавай інфармацыі, Прэзідэнтам краіны быў падпісаны Указ «Аб павелічэнні памераў дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей», якім прадугледжана павелічэнне дзяржаўных дапамог, што выплачваюцца на дзяцей. Па больш падрабязную інфармацыю «Звязда» звярнулася ў Міністэрства сацыяльнай абароны.**

Як там паведамілі, згодна з указам у сувязі з нараджэннем дзіцяці з 1 кастрычніка выплачваецца 1 млн. рублёў. Жанчына, якая стала на ўлік у жаночай кансультацыі да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, мае права на атрыманне 500 тысяч рублёў. Гэта, зазначым, аднаразовыя даплаты. Адначасова памеры іншых дзяржаўных дапамог, што назначаюцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей», павялічаны на 50 працэнтаў. Гэта штомесячныя дапамогі, якія выплачваюцца па дагляду за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў, на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў, ад 6 да 13 гадоў, ад 13 да 16 (18) гадоў. Дапамога па дагляду за дзецьмі-інвалідамі да 16-гадовага ўзросту павялічана да 300 тысяч рублёў (яна выплачваецца жанчыне або мужчыну). У сувязі з ростам цэн захоўваюцца таксама ранейшыя індэксацыі і кампенсацыі: на дзяцей да 3 гадоў — 50 тысяч, на дзяцей пасля 3 гадоў — 40 тысяч рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### ЦЭНЫ НА СТАЛІЧНАЙ КАМАРОЎЦЫ РУХАЮЦЦА ВЫКЛЮЧНА ЎВЕРХ

**Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска:**

| | |
|---|---|
| **Мяса (кг):** | |
| свініна | 35—75 |
| ялавічына | 30—55 |
| бараніна | 30—60 |
| цяляціна | 35—65 |
| куры | 37—38 |
| сала свежае | 36—45 |
| сала салёнае | 55—65 |
| **Малочныя прадукты:** | |
| малако (л) | 4—8 |
| тварог (кг) | 18—30 |
| смятана | 22—28 |
| масла | 40—45 |
| **Яйкі птушкафабрыкі** | 9,6—12,8 |
| **Яйкі хатнія** | 17—20 |
| **Алей** | 18—19 |
| **Цукар** | 8,5—9,5 |
| **Мёд** | 80—100 |
| **Агародніна (кг):** | |
| капуста | 3—4 |
| морква | 4—7 |
| агуркі | 14—22 |
| таматы | 13—18 |
| перац салодкі | 13—35 |
| баклажаны | 10—14 |
| кабачкі | 2—3 |
| цыбуля зялёная | 30—50 |
| цыбуля рэпчатая | 4,5—6 |
| бульба | 2—3 |
| пятрушка | 25—40 |
| кроп | 20—35 |
| Шампіньёны | 45—70 |
| **Садавіна (кг):** | |
| персікі | 24—28 |
| вінаград | 10—50 |
| кавуны | 3—4 |
| дыня | 10—14 |
| яблыкі | 4—35 |
| апельсіны | 14—25 |
| лімоны | 21—30 |
| бананы | 14—25 |
| **Кветкі (шт):** | |
| ружы | 6—30 |
| гваздзікі | 6—8 |

**Наведваючы штодзённа сталічныя гастраномы, мы далёка не заўсёды можам канстатаваць павышэнне цэн на харчовыя тавары. Сапраўды, лічбы ў 100, 200, 500 рублёў, якія рэгулярна мільгаюць на цэнніках, ужо нікому вочы не колюць. Іншая справа — рынак. Кожны месяц цэны тут арганізоўваюць д'ябальскія «танцы». Мяркуйце самі...**

У верасні значна падаражэла мясная прадукцыя: на 5—10 тыс. руб. — свініна і свежае сала, на 5 тыс. руб. — цяляціна, на 10—15 тыс. руб. — салёнае сала, на 3—4 тыс. руб. — мяса птушкі. Нават самая даступная для простага чалавека ежа — яйкі — таксама паднялася ў цане на 1,5 тыс. рублёў. З малочных прадуктаў змены цэн закранулі тварог (павышэнне на 5 тыс. рублёў).

На сумным увогуле фоне парадаваць пакупніка могуць толькі садавіна і агародніна, якая восенню таннее: зараз устанавіліся самыя нізкія цэны на вінаград (7—13 тыс. руб.), кавуны (3-4 тыс. руб.) і яблыкі (айчынныя — 4—10 тыс. руб. за кілаграм). А вось з агуркамі і таматамі хутка прыйдзецца развітацца па прычыне іх дарагоўлі. Але самай вялікай нечаканасцю вераснёўскага рынку стала адсутнасць там свежых грыбоў. Зрэшты, у беларускіх лясах іх таксама не назіраецца...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### ІНІЦЫЯТЫВА «БЕЛАРУСБАНКА» НЕ АТРЫМАЛА ПАДТРЫМКІ ЦЭНТРВЫБАРКОМА

**Пастаянныя кліенты Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк» на гэтым тыдні маглі сустрэць у мінскіх філіялах гэтай фінансавай установы недвухсэнсоўную аб'яву прыкладна такога зместу: «ААБ «Беларусбанк» прымае ад фізічных і юрыдычных асоб добраахвотныя ўзносы ў падтрымку рэспубліканскага рэферэндуму на рахунак № 30312024400131 у гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка г. Мінска, код 764, які адкрыты Цэнтральнай камісіяй па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў».**

**Вядома, чалавек, блізкі да палітычных калізій у краіне, прачытаўшы такое, узрадаваўся б. Маўляў, нарэшце збор ахвяраванняў пачаў ажыццяўляцца законным чынам непасрэдна на рахунак Цэнтрвыбаркома.**

Але самае цікавае ў гэтай сітуацыі стала вядома пасля прэс-канферэнцыі старшыні Цэнтрвыбаркома Віктара Ганчара. Высветлілася, што сам адрасат мяркуемых ахвяраванняў аб ініцыятыве кіраўніцтва «Беларусбанка» нічога не ведае, паколькі рашэнне аб зборы сродкаў прымалася нават без кансультацый з Цэнтрвыбаркомам. Менавіта гэтая акалічнасць і ўзрушыла прадстаўнікоў камісіі. А тым часам на рахунак ужо паступілі першыя мільёны дабрачынных рублёў: 50 — ад ВА «Даламіт» і 10 — ад Асіповіцкага ВА па забеспячэнню нафтапрадуктамі.

Факт падобнай «самадзейнасці» сп. Ганчар назваў не інакш як правакацыяй. «Для таго, каб выкарыстоўваць пазабюджэтныя сродкі на правядзенне рэферэндуму, неабходна ўзгодненая воля ўсіх зацікаўленых бакоў, неабходна існаванне дакладна распрацаванага механізма выкарыстання гэтых сродкаў. (А рахунак Цэнтрвыбаркома да гэтага выкарыстоўваўся выключна для бюджэтных сродкаў.) І нарэшце, гэта становіцца немэтазгодным, паколькі абставіны, звязаныя з выкарыстаннем так званых добраахвотных узносаў, набываюць крымінальныя абрысы», — заключыў Ганчар. Таму Цэнтрвыбарком выступіў катэгарычна супраць таго, каб на патрэбы, звязаныя з правядзеннем рэферэндуму і выбараў, выкарыстоўваліся якія-небудзь іншыя сродкі, акрамя бюджэтных. Нават лёс тых грошай, якія ўжо паступілі, будзе вырашацца на пасяджэнні камісіі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
**у камерцыйных банках на 3 кастрычніка 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **ФК «Вераніка» (за расійскія рублі)** | 5420 | 5505 | | | | | 531-504 |
| **Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл.** | 18500 | | 12200 | | 3.40 | | 26-64-41 |
| **Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк»** | 18500 | 18600 | 12100 | 12200 | 3.30 | 3.40 | 372-825 |
| **Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»*** | 18560 5430 | 18600 5530 | 12150 | 12208 | 3.41 | 3.428 | 331-917 |
| **АКБ «Аб'яднаны капітал»** | 18500 | 18600 | 12100 | 12200 | 3.30 | 3.42 | 394-197 |
| **СКБ «Тэхнабанк»** | 18500 | 18600 | 12150 | 12200 | 3.40 | 3.428 | 342-242 |
| **Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў)** | 14700 | | 9648.83 | | 2.71 | | |
| **Цэнтрабанк Расіі** | 5415 | | 3549.42 | | 100 бел. р. 28.10 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*

### УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**Паважаныя чытачы! На ўсе вашы пытанні, якія датычацца сельскай гаспадаркі, адкажа міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль ЛЯВОНАЎ.**

Завяршаецца збор ураджаю сёлетняга года. Можна заўважыць, што гэтым летам, гэтай восенню працаўнікам аграпрамысловага комплексу пашчасціла: неблагі ўраджай збожжавых, неблагі ўраджай бульбы. Але ж, безумоўна, усё гэта дасталося дзякуючы самаахвярнай працы вяскоўцаў. Сёння ў працаўнікоў сельскай гаспадаркі процьма праблем, клопатаў. Не кожнаму, безумоўна, удаецца дзеля вырашэння іх выйсці на самыя высокія інстанцыі. «Звязда» аказвае вам у гэтым дапамогу. **7 кастрычніка** на вашы пытанні, паважаныя чытачы, адкажа міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль Севасцьянавіч Лявонаў, адбудзецца гэта ў час «Прамой лініі».

**Званіце па тэлефонах: 232—38-21 і 232-38-92 з 11 да 12 гадзін. Папярэдне задавайце пытанні па тэлефонах: 268-28-72; 268-27-51.**

### УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**Паважаныя чытачы! На вашы пытанні адкажа міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ**

Сённяшні час, калі эканамічная, сацыяльная сітуацыя ў грамадстве, у краіне носяць надзвычай складаны характар, насельніцтва, кожны жыхар паасобку шукаюць адказы на многія і многія пытанні. І, як правіла, людзі, перакананы ў тым, што дзяржава павінна дапамагаць у вырашэнні ўсіх іх клопатаў. Ці так яно на самай справе? Якія абавязкі мы ўсё ж дарэмна ўскладаем на дзяржаўныя плечы? Наколькі трывалая сёння заканадаўчая база для кожнага з нас паасобку? На вашы пытанні па гэтых і іншых праблемах **11 кастрычніка з 11 гадзін да 12.30** па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92 адкажа міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Вольга Браніславаўна Даргель. Папярэдне пытанні можна задаваць па тэлефонах: 268-28-72 і 268-27-51. Звяртайцеся таксама і пісьмова.

### ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Чарговае пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання адбудзецца 8 кастрычніка 1996 года ў 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме Урада.

### ДА ЎВАГІ ГРАМАДЗЯН ЛІТВЫ

**20 кастрычніка 1996 года адбудуцца выбары ў Сейм Літоўскай Рэспублікі.**

Інфармацыю аб кандыдатах у Сейм і іх праграмах вы можаце атрымаць у пасольстве Літоўскай Рэспублікі па адрасу: Мінск, вул. Варвашэні, 17, 3 паверх.

У дзень выбараў у пасольстве з 7.00 да 21.00 будзе працаваць выбарчы ўчастак, дзе вам будуць створаны ўмовы для рэалізацыі свайго выбарчага права.

Пасольства просіць грамадзян Літоўскай Рэспублікі, якія пастаянна жывуць у Рэспубліцы Беларусь, паведаміць пасольству аб сваім месцы жыхарства па тэл. 234-72-00 у Мінску.

**Пасольства Літвы ў Беларусі.**

### «РАЯЛЬ» НЕ ПРАЙШОЎ

2 кастрычніка намеснікам Генеральнага пракурора Іванам Сашчэкам дадзена санкцыя на арышт 5 чалавек (двое з іх — грамадзяне Літоўскай Рэспублікі), якія па папярэдняй змове, з выкарыстаннем фальшывых дакументаў, з мэтай збыту на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь перамясцілі праз мяжу больш за 20 тон спірту «Раяль». Акрамя таго, удзельнікі злачыннай групы ў жніўні-верасні гэтага года без спецыяльнага дазволу і ліцэнзіі неаднаразова рэалізоўвалі на тэрыторыі рэспублікі ўвозімы з Літвы спірт «Раяль».

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора.**

### АМАТАР ЖАНОЧЫХ КАЛГОТАК АРЫШТАВАНЫ

Чарговы спосаб ашукаць сваіх суграмадзян прыдумаў наваяўлены Астап Бендэр. Як паведаміла прэс-служба УУС Мінгарвыканкома, супрацоўнікам крымінальнага вышуку ўдалося высветліць, што нейкі грамадзянін Д. па падробных дакументах атрымаў у магазіне вытворча-камерцыйнай фірмы прадукты на суму 30 мільёнаў рублёў, а са склада таварыства з абмежаванай адказнасцю — адзенне на 43 мільёны рублёў. Пасля гэтага аматар каўбасы і жаночых калготак знік у невядомым напрамку, але ў хуткім часе быў злоўлены.

За крадзеж у асабліва буйных памерах махляра чакае немалы тэрмін зняволення. Дарэчы, у часы існавання СССР за такое маглі прыгаварыць і да пакарання смерцю.

**Марыя МАЛІНОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 393

### Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў ва ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 студзеня 1996 г. № 31 і ад 28 чэрвеня 1996 г. № 236

У мэтах забеспячэння эканамічнай стабільнасці і ўдасканалення знешнеэканамічнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання **пастанаўляю:**

1. Дапоўніць падпункт 3.2 пункта 3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 студзеня 1996 г. № 31 «Аб удасканаленні дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 4, арт. 70; № 19, арт. 463) перад апошнім абзацам абзацамі наступнага зместу:

«накіроўваемая на працягу 30 дзён з дня яе паступлення:

на набыццё тэхналагічнага абсталявання, сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых вырабаў і энерганосьбітаў, што выкарыстоўваюцца для ўласнай вытворчасці, а таксама на пагашэнне і абслугоўванне атрыманых для гэтай мэты крэдытаў, на выплату збіраемых падаткаў, збораў і непадатковых плацяжоў:

транспартнымі арганізацыямі на набыццё, у тым ліку на аснове дагавораў лізінгу (арэнды), транспартных сродкаў, што выкарыстоўваюцца для ўласных патрэб, на пакрыццё расходаў па транспарціроўцы, страхаванню і экспедзіраванню грузаў, на пагашэнне і абслугоўванне атрыманых для гэтых мэтаў крэдытаў, а таксама на выплату падаткаў і збораў, звязаных з транспарціроўкай грузаў:

страхавымі арганізацыямі на выплату страхавых кампенсацый, на выплату ўстаноўленых адлічэнняў у страхавыя рэзервовыя фонды, на пакрыццё расходаў па страхавых узносах, пералічаных іншым страхавым і перастраховачным арганізацыям згодна з дагаворам састрахавання і перастрахавання, па страхавых плацяжах пры продажу страхавых полісаў (сертыфікатаў) замежных страхавых арганізацый:

вытворцамі экспартнай прадукцыі пастаўшчыкам камплектуючых вырабаў для выпуску гэтай прадукцыі і асобам, якія аказваюць паслугі па яе рэалізацыі, у мэтах пераразмеркавання валютнай выручкі паміж імі».

2. Пункт 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 чэрвеня 1996 г. № 236 «Аб дадатковых мерах па ўпарадкаванню валютнага рэгулявання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 19, арт. 463) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Устанавіць, што беларускія юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, абавязаны прадаваць на Міжбанкаўскай валютнай біржы 50 працэнтаў сродкаў у свабодна канверсоўнай валюце і расійскіх рублях на працягу 30 дзён з дня паступлення гэтых сродкаў на іх рахункі ў беларускіх або замежных банках, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

3. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
2 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 394

### Аб мерах па абароне ўнутранага рынку і падтрымцы айчынных таваравытворцаў

1. Стварыць пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Камісію па абароне ўнутранага рынку і падтрымцы айчынных таваравытворцаў.

Асноўнай задачай указанай камісіі з'яўляецца забеспячэнне па ініцыятыве міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання падрыхтоўкі рашэнняў урада аб абароне ўнутранага рынку, у тым ліку шляхам прымянення тарыфнага і нетарыфнага рэгулявання, ліцэнзавання вытворчасці, тэхнічнага абслугоўвання і рамонту айчыннай прамысловай прадукцыі і іншых формаў падтрымкі айчынных таваравытворцаў.

2. Устанавіць, што выкарыстанне міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, падведамнымі ім юрыдычнымі асобамі, якія атрымліваюць датацыі з дзяржаўнага бюджэту, фінансавых сродкаў на набыццё ў дзяржавах, што не ўваходзяць у мытны саюз, прадукцыі, уключанай у Рэестр прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння для дзяржаўных патрэб і выпускаемай айчыннымі таваравытворцамі, дапускаецца толькі з дазволу Міністэрства эканомікі.

Нацыянальнаму банку, іншым банкам рэспублікі арганізаваць кантроль за ажыццяўленнем фінансавых аперацый з улікам указанага патрабавання.

3. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

3.1. У двухтыднёвы тэрмін зацвердзіць састаў Камісіі па абароне ўнутранага рынку і падтрымцы айчынных таваравытворцаў, у месячны тэрмін — Палажэнне аб гэтай камісіі і ў двухмесячны тэрмін — палажэнні аб айчынным таваравытворцы і аб Рэестры прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння для дзяржаўных патрэб;

3.2. Вызначыць пералік сыравіны, камплектуючых вырабаў, вузлоў, паўфабрыкатаў, дапаможных матэрыялаў, інструменту, што выкарыстоўваюцца таваравытворцамі на вытворчыя патрэбы, якія вызваляюцца на тэрмін па 31 снежня 1997 г. ад абкладання мытнымі пошлінамі пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь;

3.3. Разгледзець пытанне аб павышэнні мытных пошлін на асобныя віды тавараў, што ўвозяцца ў Рэспубліку Беларусь;

3.4. У I квартале 1997 г. распрацаваць і зацвердзіць нацыянальную праграму імпартазамяшчэння;

3.5. Падрыхтаваць для ўнясення на разгляд урадаў Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі прапановы аб прыняцці ўзгодненых мераў па абароне ўнутранага рынку дзяржаў — удзельніц мытнага саюза з улікам эканамічных інтарэсаў гэтых дзяржаў;

3.6. Устанавіць, што выраб складанай радыёэлектроннай апаратуры і яе вузлоў, касавых апаратаў, электронных вагаў, прыбораў кантролю, уліку і рэгулявання расходу (падачы) вады, газу, цеплавой і электрычнай энергіі, іх тэхнічнае абслугоўванне і рамонт (акрамя ажыццяўляемых для ўласных патрэб) праводзяцца на аснове спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), які выдаецца Міністэрствам прамысловасці;

3.7. У двухмесячны тэрмін ва ўстаноўленым парадку прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь праект закона Рэспублікі Беларусь «Аб спыненні нядобрасумленнай канкурэнцыі», а таксама прапановы аб унясенні ў заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь змяненняў і дапаўненняў, што вынікаюць з гэтага Указа.

4. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Службу кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

5. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
2 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.

*СКАНДАЛ*

### МІЛІЦЫЯНЕРЫ СА СЛУЖБЫ АХОВЫ АБКРАДВАЛІ КАМЕРЦЫЙНЫЯ ЎСТАНОВЫ?

**Днямі на мундзіры беларускай міліцыі з'явілася, бадай, самая буйная і брудная за ўсю гісторыю вартавых правапарадку пляма.**

Адразу 10 супрацоўнікаў аддзела аховы Савецкага РАУС Мінска на мінулым тыдні трапілі за краты. Міліцыянеры падазраюцца ў крадзяжы дзяржаўнай і грамадскай маёмасці з ахоўваемых імі ж аб'ектаў. Пакуль дакладна невядома, колькі фірмаў сталі ахвярамі гэтых «гора-вартаўнікоў». У прыватнасці, як паведаміў у тэлефоннай размове з карэспандэнтам «Звязды» пракурор Савецкага раёна сталіцы Пётр Іванкоў, паводле папярэдніх даных, арыштаваныя міліцыянеры падазраюцца ў тым, што вынеслі з ахоўваемых складскіх памяшканняў маёмасці на суму каля 500 мільёнаў рублёў. Міліцыянеры, якія займаліся расследаваннем гэтай скандальнай справы, пакуль устрымліваюцца ад каментарыяў для прэсы. І справа тут не ў жаданні «пакінуць смецце» ў хаце, хутчэй у імкненні не пашкодзіць следству. Бо трэба зазначыць, што выкрылі «пярэваратняў» менавіта самі супрацоўнікі Савецкага РАУС падчас расследавання крымінальнай справы аб крадзяжы маёмасці са склада камерцыйнай фірмы.

Безумоўна, рабіць якія-небудзь канчатковыя высновы аб ступені віноўнасці арыштаваных вартаўнікоў правапарадку пакуль рана. Гэта зробіць толькі суд, да якога, відавочна, справа дойдзе не вельмі хутка.

Зрэшты, пэўныя адмоўныя вынікі гэтай скандальнай гісторыі ўжо ёсць. Істотна падарваны давер да беларускай міліцыі, у шэрагах якой, вядома ж, пераважная большасць сумленных, высокамаральных супрацоўнікаў, сапраўдных абаронцаў Закона.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

*КАНФЕРЭНЦ-ЗАЛА*

*Уладзімір ГАРКУН:*

### «Калі гаварыць пра вынікі сельскагаспадарчага года, то адным са здабыткаў з'яўляецца маральна-псіхалагічны эфект»

**Сённяшняе становішча народнай гаспадаркі выклікае зразумелую трывогу. Прычын на тое даволі шмат. Усе яны — навідавоку. Але ж калі, у прыватнасці, гаварыць пра аграпрамысловы комплекс, то не ўсё ўжо так і дрэнна. А як? Добра? Пэўныя высновы чытач можа зрабіць і сам, калі пазнаёміцца з лічбамі, агучанымі на ўчарашняй прэс-канферэнцыі віцэ-прэм'ера Уладзіміра Гаркуна.**

Пра лічбы — трошкі ніжэй. Спярша хацелася б падкрэсліць наступны, вызначаны Уладзімірам Гаркуном, вынік сёлетняга сельскагаспадарчага года. Віцэ-прэм'ер адзначыў, што адным са здабыткаў з'яўляецца маральна-псіхалагічны эфект. І патлумачыў гэта наступным чынам. Сярод кіраўнікоў сельскай гаспадаркі з'явілася больш арганізатараў, перакананых, што багатыя ўраджаі, добрую прыбаўку да вагі можна атрымаць толькі пры ўмове эфектыўнага вядзення гаспадаркі. І другое: поспех залежыць ад эфектыўнасці непасрэдна сваёй уласнай дзейнасці. І гэта, відаць, вельмі важна. Быў час, калі, стаміўшыся ад чакання будуць калгасы альбо пагалоўнае фермерства, і кіраўнікі, і выканаўцы проста апусцілі рукі. Сёння ж, як заўважыў віцэ-прэм'ер, сітуацыя падкантрольная, і ў аграпрамысловым комплексе ведаюць, што трэба рабіць дзень пры дні.

Пра лічбы. У. Гаркун упэўнены, што тыя 102 працэнты, пра якія гаварыў Прэзідэнт яшчэ ў сёлетнім лютым, аграпрамысловы комплекс адолее. Хаця тады, у лютым, суадносіны да мінулага года складалі 90 працэнтаў. Можна толькі здагадвацца, цаной якіх намаганняў удалося выйсці на жаданыя і няпростыя 102 працэнты. Сёлета атрымана 6,5 мільёна тон збожжа (гэта калі ўлічваць і прыватны сектар). Ураджайнасць склала дваццаць пяць цэнтнераў з гектара. Безумоўна, паўплывала рашучая падтрымка з забеспячэннем мінеральнымі ўгнаеннямі. За кошт дзяржавы і мясцовых бюджэтаў у большай ступені. У Нясвіжскім раёне, у прыватнасці, ураджайнасць склала звыш 40 цэнтнераў. Ёсць шэраг гаспадарак, дзе сабралі амаль па 60 цэнтнераў з гектара.

Неблагі ў асноўным і ўраджай «другога хлеба», уборка якога падыходзіць да завяршэння. Сярэдняя ўраджайнасць — каля 150 цэнтнераў. Дарэчы, падкрэсліваючы прыярытэты раслінаводчай галіны, Уладзімір Гіляравіч заўважыў, што бульба з'яўляецца адной з самых эфектыўных культур. Развіццё бульбаводства, не выключана, можа даць добры прыбытак. Але ж — сапраўдным гаспадарам. Калі на месцах, у калгасах, саўгасах будуць кіравацца перакананнем, што галоўная іх справа — пасадзіць-пасеяць, вырасціць і сабраць, ды і ўсё, то наўрад ці багацейшымі стануць гаспадаркі, наўрад ці большую зарплату атрымаюць самі калгаснікі. Гаспадаранне на зямлі — у гэтым пераконвае час — гэта і пошук рынкаў збыту, і наладжванне ўзаемавыгадных гандлёвых сувязей.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*ПОГЛЯД*

## ПАРЛАМЕНТ У ТАНКАВЫМ ПРЫЦЭЛЕ

### Успаміны пра маскоўскія падзеі кастрычніка 1993 года набылі ў сённяшняй Беларусі асаблівае гучанне

**Тры гады таму ў такія ж цёплыя кастрычніцкія дні на вуліцах Масквы разгортваўся трагічны фінал зацяжнога процістаяння прэзідэнта Барыса Ельцына з расійскім Вярхоўным Саветам. Увесь свет у прамым тэлеэфіры назіраў, як выведзеныя на плошчу перад Белым домам танкі прамой наводкай лупілі па будынку парламента.**

І нават самыя гарачыя прыхільнікі дэмакратыі і Барыса Ельцына не спяшаліся тады апладзіраваць дзеянням расійскага прэзідэнта: хаця б таму, што ад асколкаў артылерыйскіх снарадаў гінулі не столькі непамерныя амбіцыі камуністычных лідэраў, колькі радавыя грамадзяне Расіі.

Зрэшты, Захад даволі паблажліва паставіўся да сілавых метадаў, з дапамогай якіх Ельцын расквітаўся з Вярхоўным Саветам. Асоба расійскага прэзідэнта была і застаецца для заходніх лідэраў гарантам дэмакратычных пераўтварэнняў і засцерагальнікам ад рэстаўрацыі камунізму і таталітарызму. Дзеля гэтых мэтаў Захад і не такое гатоў дараваць Барысу Ельцыну (і даруе — дастаткова ўспомніць чачэнскую трагедыю і метады, з дапамогай якіх расійскае кіраўніцтва на працягу амаль двух гадоў спрабавала навесці «канстытуцыйны парадак» у гэтай мяцежнай каўказскай рэспубліцы).

Сённяшняя беларуская сітуацыя ў нечым нагадвае становішча ў Расіі, якое склалася там напярэдадні кастрычніка 1993 года. Прынамсі, імкнучыся ўмацаваць прэзідэнцкую ўладу і значна расшырыць свае паўнамоцтвы, Аляксандр Лукашэнка ўступіў у жорсткую канфрантацыю з дзеючым Вярхоўным Саветам. І ў гэтай барацьбе лідэр Беларусі, мяркуючы па яго ўласных выказваннях, гатоў на самыя кардынальныя крокі.

Аднак у пераломныя моманты палітычнае кіраўніцтва Беларусі, намерваючыся зрабіць рашаючы крок, вымушана спачатку скіраваць позірк на маскоўскі Крэмль. У залежнасці ад таго, як там адрэагуюць — паблажлівым заахвочвальным кіўком галавы ці жэстам незадаволенасці, — і вымушана дзейнічаць беларускае кіраўніцтва. Так было ў часы БССР, такі ж парадак, нягледзячы на некаторыя суверэнныя атрыбуты і дыпламатычныя рэверансы, захоўваецца і цяпер. І ад гэтай аб'ектыўнай неабходнасці наўрад ці ўдасца пазбавіцца ў блізкай перспектыве: такая высокая плата за нашу непазбежную ў сённяшніх умовах эканамічную залежнасць ад расійскіх энерганосьбітаў, за якія Беларусь не здольна спаўна разлічвацца.

Уплывовыя расійскія палітычныя фігуры па-рознаму ацэньвалі на працягу апошняга месяца беларускую сітуацыю. Калі абагульніць шматлікія візіты, перамовы, выказванні на гэту тэму, то з пэўнай доляй умоўнасці можна сцвярджаць, што на бок Аляксандра Лукашэнкі сталі Аляксандр Лебедзь і Юрый Лужкоў (у апошні час ходзяць размовы, што два гэтыя палітыкі гатовы ў адной звязцы выступіць у барацьбе за прэзідэнцкую пасаду ў тым выпадку, калі Барыс Ельцын не зможа выконваць абавязкі кіраўніка дзяржавы і будуць прызначаны новыя выбары).

Наадварот — фігуры, якія сёння валодаюць усёй паўнатой улады ў Расіі — прэм'ер Віктар Чарнамырдзін і кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Анатоль Чубайс — перасцерагаюць беларускага Прэзідэнта ад паспешлівых крокаў і настойваюць на тым, каб беларускі лідэр шукаў і знаходзіў кампрамісы з парламентам.

У гэтай няпэўнай сітуацыі ўсе чакалі рэакцыі Барыса Ельцына. Рэакцыя адбылася — у выглядзе пісьма, урыўкі з якога сталі вядомы дзякуючы расійскім сродкам масавай інфармацыі. Рэцэпт урэгулявання крызісу, прапанаваны расійскім прэзідэнтам, даволі аднназначны: «Зрабіць усё магчымае па ўхіленню рознагалоссяў з парламентам, весці з ім цярплівую, карпатлівую работу па знаходжанню кампрамісаў, пазбягаць абвастрэння сітуацыі».

Варта заўважыць, што сам Барыс Ельцын у кастрычніку 1993-га ў сваіх узаемаадносінах з парламентам кіраваўся зусім іншымі прынцыпамі. Зрэшты, магчыма, менавіта мінулы сумны вопыт і вымушае яго цяпер даваць такія парады.

Адказ беларускага Прэзідэнта (у інтэрпрэтацыі прэзідэнцкай прэс-службы) схіляе да высновы, што Аляксандр Лукашэнка ў асноўным падтрымаў рэкамендацыі Барыса Ельцына і пагадзіўся, што ў Расіі і Беларусі «павінна падтрымлівацца сацыяльная і палітычная стабільнасць, а ўзнікаючыя праблемы вырашацца цывілізаваным дэмакратычным шляхам».

Зрэшты, канчатковы адказ на пытанне аб тым, ці пойдзе Прэзідэнт на парушэнне закона і ці прызначыць свой рэферэндум, насуперак парламенцкай пастанове, на 7 лістапада — застаецца адкрытым. Аднак пасля засцерагальных парад Ельцына адказ на гэта пытанне, які яшчэ тыдзень таму ні ў кога не выклікаў ніякіх сумненняў, — цяпер не выглядае так ужо адназначна.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ГЛЫБІНКА*

Як вядома, гарадок Дзісна размешчаны адразу на дзвюх вялікіх рэках. Тут зліваюцца Дзісна з Дзвіною. Праблема пераправы, тым не менш, вырашана: стары жалезна-драўляны мост праз Дзісну, а праз Дзвіну — паром. Адзін з тых, хто злучае дзвінскія берагі — Мікалай Федарэц.

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

### ШАГАМ МАРШ НА КІРМАШ

**Спачатку — карцінка з натуры: бабулька гадоў васьмідзесяці вязе на дачнай калясачцы мех бульбы, а дзед папіхае каляску ззаду кіем, каб бабцы было лягчэй. На прыпынку хлопцы той мех махнулі ў аўтобус, следам падсадзілі старых, — абодва задаволеныя, далей некуды. Як жа, на зіму бульбай запасліся танна.**

Было тое летась: якраз у гэтую пару сталіца размятала дары восеньскага кірмашу. І вось год праляцеў, і амаль двухмільённы горад зноў збіраецца на стаўшае традыцыйным гандлёвае свята. Грымне «Восенькі кірмаш-96» у суботу. Галоўны фэст — на плошчы каля Палаца спорту, акрамя яго ў кожным буйным жылым раёне пройдзе свой. А на вуліцах будзе весціся гандаль з машын — гэткія перасоўныя гандлёвыя кропкі.

Пры чым тут свята, калі будуць гандляваць бульбай ды капустай, яблыкамі ды іншымі дарамі асенняга поля і сада, а яшчэ — прамысловымі таварамі, вырабамі мастацкіх промыслаў? А пры тым, што па добрай завядзёнцы ўсё гэта будзе рабіцца з песняй, жартамі, выдумкай. Як на вёсцы гуляюць дажынкі — не забыліся? То лічыце, што самыя буйныя дажынкі і пройдуць 5 кастрычніка. З канцэртамі майстроў эстрады і фальклорных гуртоў (аб культурнай праграме паклапацілася міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір»), з багатым сталом і шматлікімі гасцямі.

Адметная рыса кірмашу — гандлёвыя нацэнкі адчувальна зменшаны, а некаторыя прадпрыемствы знялі іх зусім. Так што купіць сапраўды можна танна. І — не толькі ў Мінску, вось што важна.

Расказваючы на спецыяльна наладжанай прэс-канферэнцыі аб маючай адбыцца падзеі, міністр гандлю Пётр Казлоў падкрэсліў, што такія ж восеньскія базары пройдуць ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах рэспублікі. На іх будуць працаваць амаль 30 тысяч гандлёвых работнікаў — цэлая армія.

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

*АНТАЛОГІЯ АДНАГО ВЕРША*

**Васіль ЖУКОВІЧ**

### ТВОЙ ШЛЯХ

*Ты — ўвасабленне годнасці, сумлення,*
*бальзам гаючай праўды сееш ты;*
*але буяе на палях сумненняў*
*паклёпаў чэмер, лебяда лухты.*

*Рамантык-сейбіт!*
*Сееш мо зарана?*
*Ці прыпазніўся глебу ты ўзараць?*
*Калі плугамі дзёран не ўзарваны,*
*камусьці давядзецца узарваць.*

*Не мудры — хітры нехта, больш увішны...*
*Ды што казаць — хіба не бачыш сам!*
*Шкада, калі атрутны чэмер пышны*
*заб'е, заглушыць гойны твой бальзам!*

